# НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ!


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 17 (896) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 29 КРАСАВІКА 1973 г. ЦАНА 60 гр.





* * *

Хто раней,
хто пазней,
Толькі ўсе
Зноў і зноў
Мы прыходзім
Да простых,
як хлеб і паветра,
Высноў:

Што жыццё чалавеку —
Любому —
Даецца адно,
І што,
як ні надточвай,
Кароткае вельмі яно,

І што праўда на свеце
Адна —
Без крупінкі маны,
І што шчасця на свеце
Няма
Без сваёй стараны...

Колькі б ты ні мудрыў,
Як ні кідаўся б ты,
А прыходзіш
Да гэтай святой прастаты.

І ўзыходзяць
Над лесам
Пражытых табою гадоў
Непагасныя зоркі
Законаў бацькоў і дзядоў.

Прарастаюць зярняты
Яшчэ невядомых навук
На шырокіх далонях
Натруджаных рук.

І нідзе
Не схавацца
Ад сынавых ясных вачэй.
І на свеце тады
Жыць
Намнога цяжэй
І лягчэй.

**Генадзь Бураўкін**




## З МАЛОЧАК — ПРАЗ ЛЕНІНА — У БЕРЛІН



*Ян Кочук.*

Прысеўшы на вулічнай лавачцы, чакаў я Яна Кочука — жыхара вёскі Малочкі ў Боцькаўскай гміне на Бельшчыне. Рэкамендуючы яго асобу, гаварылі мне „ў павеце":

— Усю вайну ваяваў.

З такім чалавекам варта пазнаёміцца. Тым больш, што год 1973 у дзеях Людовага Войска Польскага з'яўляецца годам юбілейным. А гэтыя дзеі ўвайшлі ў біяграфію Яна Кочука, якому цяпер 55 гадоў і які па-даўнейшаму працуе на бацькоўскай гаспадарцы.

— Як вы трапілі ў Войска Польскае? — пытаю ў яго.

— У 1940 годзе мяне ўзялі як навабранца ў Чырвоную Армію, у якой я служыў да вясны 1943 года. Калі пачалі арганізоўваць у Сельцах на Ацэ І Дывізію імя Т. Касцюшкі, я быў адкамандзіраваны ў Войска Польскае, у якое кіравалі многіх чырвонаармейцаў, што паходзілі з даўнейшай Заходняй Беларусі, польскіх грамадзян.

На пацвярджэнне сваіх слоў Ян Кочук раскладае на стале свой дамашні архіў.

Праз мае рукі праходзяць пісьмовыя падзякі, віншаванні і пасведчанні на медалі, ордэны і крыжы. Ад імя Вярхоўнага Савета СССР і Краёвай Рады Нарадовай, ад імя Галоўнакамандуючага Савецкай Арміяй і Галоўнакамандуючага Людовым Войскам Польскім. За перамогу над фашысцкай Германіяй, за Варшаву, за Одру, Нысу і Балтыку, за Берлін і ўрэшце найважнейшы сярод гэтых дакументаў — пасведчанне аб прысваенні ордэна „Віртуці Мілітары" (5 класа), а таксама двух медаляў „Заслужаны на полі хвалы".

Лацінскія словы „Віртуці Мілітары" абазначаюць „салдацкую адвагу, славу і геройства". Крыж „Віртуці Мілітары" з'яўляецца найважнейшай вайсковай узнагародай у Польскай Арміі. Гэтым ордэнам пахваліцца могуць не многія грамадзяне нашай краіны.

— Гэта за ўдзел у баях на Одры і ў штурме на Берлін, — паясняе Ян Кочук.

— Што засталося ў вашай памяці з гэтых баёў?

— У раён Одры наш полк прабіўся

Працяг на стар. 4



## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73"

*Удзельніцы цэнтральнага агляду, якія заваявалі II месца ў катэгорыі дуэтаў, Ніна Мушынская і Надзея Парэмбская з Гарадка Беластоцкага павету.*

*Фота А. Карпюка.*




■ Пленарнае пасяджэнне праўлення гайнаўскага аддзела БГКТ (8.IV) было прысвечана справам супрацоўніцтва аддзела з актывам. Старшыня аддзела Аляксандр Іванюк ў дакладзе моцна падкрэсліў ролю старшынь гурткоў БГКТ і настаўнікаў беларускай мовы ў дзейнасці Беларускага таварыства. Шмат увагі прысвяціў ён развіццю мастацкай самадзейнасці, у тым ліку конкурсу на беларускую песню, а таксама ролі БГКТ, яго членаў у павелічэнні сельскагаспадарчай вытворчасці, ўдзелу ў ваяводскім конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная". Затым дакладчык запрапанаваў разгледзець магчымасці адносна ўтварэння пакуль што аднаго гміннага праўлення БГКТ. Пасля абшырнай дыскусіі пленум пастанавіў 1) арганізаваць два разы ў год нарады старшынь гурткоў БГКТ, 2) адзін раз — нараду настаўнікаў беларускай мовы, 3) прыдзяліў членаў праўлення да паасобных гурткоў БГКТ, каб дапамаглі ім у працы і ў зборцы членскіх складчын, 4) зацвердзіў раней падрыхтаваны праект плана працы аддзела з нагоды святкавання 30-ай гадавіны Войска Польскага, у якім прадбачана арганізаваць акадэміі, сустрэчы з афіцэрамі Войска Польскага, удзельнікамі II сусветнай

**(Працяг на стар. 3)**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"

**Фотарэпартаж з фінальнага розыгрыша конкурсу „Што ведаеш аб Савецкім Саюзе" ● Літаратурная старонка ● Уладзімір Германюк з Доўгага Броду (Гайнаўшчына) успамінае вайну ● Аб шанцах для сялян расказваюць журналісту маладыя гаспадары Мілейчыцкай гміны ● Пра даўніх нараўскіх арэляў ● Да чаго даводзіць несправядлівасць ● Аб адной з буйнейшых школ Мінска ● Весткі з Крушыняп, Пашкоўшчыны, Спічкаў і Каралёвага Мосту ● Папулярная савецкая песня „Синий лён".**



*Сухавольцы вёска гаспадарная і культурная.*




Сухавольцы з'яўляюцца адной з найпрыгажэйшых вёсак у Гайнаўскім павеце. Мураваныя дамы з ганкамі, каляровыя жалезныя парканы паабапал шасейнай дарогі з Бельска ў Кляшчэлі. Усе яны прыгожыя, быццам падрыхтаваныя на выстаўку. У конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" Сухавольцы занялі калектыўна першае месца і атрымалі 100 тыс. злотых узнагароды. Да гэтага конкурсу рыхтаваліся ўсе мясцовыя жыхары. Дзякуючы іх супольным намаганням

**(Працяг на стар. 4)**



# ТАМ, ДЗЕ ПЛЕШЧАЦЦА ФАРЭЛЬ

Пад стромкімі белакорымі бярозамі блакітнымі вачанятамі глядзяць пралескі на прамяністае красавіцкае сонейка. Мядовым пахам поўняць наваколле аблітыя ружовым квеццем кусты воўчага лыка. У празрыстую тонь сажалак заглядаюць вышэзныя кашлатыя елкі і ціхі, на высокім белым падмурку, драўляны дом. А ў крынічнай вадзе сажалак плешчацца срабрыстая фарэль...

Шыльда над брамай не пакідае сумненняў: перад намі ўладанні Польскага рыбалавецкага саюза, садок для развядзення фарэлей або інакш — папулярная ў мястэчку Супраслі і яго ваколіцах „пстрангарня".

Пастаянны яе жыхар і наглядчык за сажалкамі Чэслаў Жукоўскі — чалавек улюбёны ў рыбу і размоўны. Вядзе ў падмурак дому, дзе абсталяваны спецыяльны інкубатар для вывядзення з ікры малькоў фарэлей. У прасторным і глыбокім бетонным жолабе рыхтуюцца да „развязкі" мажныя 2—3-кілаграмавыя самкі і значна меншыя ад іх 0,5—1-кілаграмавыя самцы. Кружаць у халоднай вадзе і неахвотна горнуцца да ежы. Непадалёку ад жолаба, у металічных скрынках, цераз якія няспынна працякае крынічная вада, ляжаць дзесяткі тысяч жаўтаватых ікрынак, кожная велічынёй з малую гарошыну. Праз некалькі дзён з іх павінны выйсці рухлівыя малькі памерам у адзін сантыметр. А побач стаяць такія ж скрынкі з выведзенымі малькамі. Мройным воблачкам абступілі яны кавалачак мармуру. Здагадваюся, што на адпаліраванай затопленай у вадзе мармуровай паверхні знаходзіцца нейкая ежа.

— Чым жа вы корміце гэтыя маленствы?

— О, фарэльчаняты — пераборлівыя стварэнні. Ядуць яны толькі молатую селязёнку, вымешаную з жаўтком курынага яйка. Падаецца ім гэты спецыял кожныя дзве гадзіны, безупынна дзень і ноч. — Хоць і малыя, але апетыту ім толькі пазайздросціць, — усміхаецца Ч. Жукоўскі. — А потым, як падрастуць, вантробаю іх кормім. Калі ж ужо стануць велічынёй са складаны ножык, жывім іх living рознымі мяснымі адпадкамі, камбікармамі, вараным зернем бабовых раслін.

Заўважаю, што „пстрангарня" мае не так ужо многа сажалак для адкормкі фарэлей на таварную рыбу.

— Бо мы ў асноўным займаемся вырошчваннем малькоў фарэлей, — паясняе мой размоўца. — Штогод выводзім іх каля 300 тысяч штук, з гэтага сабе пакідаем каля 10 тысяч штук на гадоўлю матак і млечакоў ды крыху на продаж. Малькі з нашага садка вандруюць у спецыяльных кантэйнерах не толькі ў другія рыбалавецкія гаспадаркі, самыя чыстыя рэчкі і азёры Беласточчыны, але і ў іншыя рэгіёны нашай краіны. На рынак жа пастаўляем каля тоны фарэлей у год.





— А калі яна бывае ў продажы?

— На жаль, у рыбных крамах Беласточчыны вы яе не знойдзеце. Гэтую смачную, але і дарагую рыбу забірае ў нас Варшава. Яна ідзе ў шпіталі для цяжка хворых, а частка трапляе таксама ў сталічныя рэстараны вышэйшых катэгорый.

— І даўно тут знаходзіцца „пстрангарня"?

— Гадоў каля дваццаці пяці, — прыгадвае Ч. Жукоўскі. — Ужо пры народнай уладзе рыбалавецкі саюз яе пабудаваў. Месца надта ж адпаведнае: тут у сажалках б'е аж 48 крыніц! А перад вайной дык такая крэкаць была, што і носа не ўбіць. Толькі тут, на лузе, крыху разуха расла. Усё гэта пану Кавеліну належала. Памятаю, я бацьку свайму памагаў тут сена рабіць. Па пояс у рудой вадзе прыходзілася лазіць. Капічкі на насілках выносілі. А рабілі сена так: палавіна ішла пану, а палавіна нам...

Ч. Жукоўскі прыступае да нарыхтоўкі спецыяльнага меню сваім прагаладаўшымся выхаванкам. А яны — срэбрабокія — плешчуцца ў блакітнай крынічнай вадзе. Грэе прамяністае красавіцкае сонца. З навакольнага лесу цягне мядовым пахам воўчага лыка.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

---

## Пачатак на стар. 1

## БГКТ ХРОНІКА

вайны, конкурсы ў гуртках БГКТ на насценгазеты, паказваць савецкія фільмы, чытаць даклады. Павятовая акадэмія запланавана ў вёсцы Трасцянка. У пленуме прыняла ўдзел Надзя Даніловіч — кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП БГКТ.

■ 7 сакавіка на сходзе гуртка БГКТ у вёсцы Залукі ў Беластоцкім павеце (гурток налічвае 45 членаў) шмат увагі было прысвечана справам арганізавання народнага фэстыну. Назаўтра, у нядзелю, члены БГКТ і ЗСМВ грамадскім чынам працавалі пры парадкаванні пляцу пры сваім клубе.

■ У нядзелю 8 сакавіка ў Шымках і Рыбаках, а ў панядзелак у Меляшках у школах кінаперасоўкай ГП БГКТ былі паказаны два савецкія фільмы „Ніна" і „Дарагой цаной". У Зубрах дэманстраваўся фільм „Ніна" (вёскі гэтыя ў Беластоцкім павеце).

■ 8 красавіка гурток БГКТ у Рыбаках (старшыня Мікалай Хлябіч) абмяркоўваў арганізацыйныя справы, звязаныя з традыцыйным ужо народным фэстынам, які вырашылі праводзіць кожны год у першую нядзелю ліпеня. У гэты дзень усе члены аплацілі членскія складчыны.

■ Ад паловы лютага праводзіць рэпетыцыі 14-асабовы танцавальны калектыў у Белавежы, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Янка Крупа.

■ Нядаўна адбыўся сход моладзі ў Сачкоўцах (Сакольскі павет) з удзелам Янкі Крупы — працаўніка ГП і Ірэны Місеюк — штатнага працаўніка сакольскага аддзела БГКТ. Прысутныя пастанавілі стварыць у сваёй вёсцы драматычны гурток.

■ Галоўным пунктам пленума праўлення гарадскога аддзела ў Беластоку (адбыўся 13.IV) быў даклад старшыні аддзела Мікалая Гайдука на тэму працы аддзела з актывам. Падсумаваны таксама былі дасягненні аддзела ў бягучай кадэнцыі. У дыскусіі выступілі Іван Стрышко, Уладзімір Навіцкі, Анна Амбражэй, Марыся Пракапюк, Анатоль Казмерук, Кастусь Масальскі, Уладзімір Паўлоўскі, Міхась Усціловіч, Міхась Хмялеўскі, Валя Філіпюк. Усе яны выказвалі свае думкі наконт лепшай працы аддзела. Старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік станоўча ацаніў дзейнасць аддзела, расказаў аб асноўных напрамках працы ГП і задачах аддзелаў і пажадаў членам праўленняў яшчэ больш дасягненняў на ніве беларускай культуры ў горадзе Беластоку. У прынятай пастанове пленума гаворыцца аб патрэбе лепшай працы з членамі харавога калектыву, аб утварэнні танцавальнага гуртка і тэатральнага калектыву, аб павелічэнні колькасці чытачоў „Нівы" ў Беластоку, аб арганізаванні народнага фестыну, аб грамадскім чыне аддзела, аб утварэнні фатаграфічнага гуртка і г.д.

Пленум займаўся таксама арганізацыйнымі справамі. Вывёў ён з членаў прэзідыума і членаў праўлення Зосю Стаськевіч і Янку Кірызюка ў сувязі з іх выездам з Беластока. На іх месца ў склад прэзідыума выбраны Валя Цімашук (сакратар аддзела) і Валя Філіпюк. З членаў праўлення выведзены таксама Аляксандр Багацэвіч (па яго просьбе), а на яго месца выбраны Язэп Варонскі — студэнт III курса Вышэйшай інжынерскай школы. Вёў пленум намеснік старшыні аддзела Уладзімір Паўлоўскі.

■ 13 сакавіка старшыня ГП Мікалай Самоцік і кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Валя Філіпюк падпісалі дагавор са студэнцкай радай Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку і прадстаўніком дыскусійнага фільмовага клуба „Кляпсік" адносна таго, каб раз у тыдзень студэнты карысталіся з памяшкання ГП і арганізавалі дыскусіі над фільмамі.

■ Фінальным конкурсам „Што ведаеш аб СССР", спалучаным з мастацкай часткай, 14 красавіка Галоўнае праўленне БГКТ і яго орган „Ніва" закончылі святкаванне 50-ай гадавіны ўтварэння СССР.

■ У варшаўскім аддзеле БГКТ 13 красавіка адбылася дыскусія над зместам кніжкі Уладзіміра Паўлючука пад загалоўкам „Światopogląd jednostki w warunkach rozpadu tradycyjnej społeczności wiejskiej".

Вельмі шкада, што аўтар абяцаў, але не прыехаў на аўтарскую сустрэчу.

(мх)

---

# ЧЫМ БУДЗЕ ГМІННЫ ЦЭНТР КУЛЬТУРЫ?

Узнікненне гмін стварае запатрабаванне на новы мадэль культуры. Зразумела, найважнейшым у гэтым мадэлі будзе гмінны культурны цэнтр.

Веласточчына мае ўжо нейкі вопыт у працы грамадскіх цэнтраў культуры, якіх да канца 1972 года працавала ў ваяводстве 49.

Цяпер ставіцца такая задача: гмінны цэнтр культуры павінен быць у кожнай гміне. Ясна, што задача гэта не на год і нават не на пару год. Ніхто не паверыў бы нашым словам, калі б мы гаварылі, што за пару год у кожнай гміне будуць створаны гмінныя цэнтры культуры, якія ў далейшым коратка будзем зваць — ГОК-амі.

Фармальна ўзяўшы, можна было б стварыць ГОК-і ў кожнай гміне, але ці пра фармальнасць ідзе рэч ці пра рэчаіснасць? Рэч ідзе пра развіццё сапраўдных гмінных цэнтраў культуры — паўнацэнных і высокаідэйных. Толькі такія цэнтры культуры будуць рассяваць на ўсю гміну святло ведаў і культуры.

У такім, нарысаваным у нашых жаданнях ГОК-у, павінна абавязкова быць: вялікая глядзельная зала прынамсі на 300 месц, прасторная, добра забяспечаная рознымі кніжкамі бібліятэка з адпаведнай вялікай чытальняй, культурная кавярня з газетамі і часопісамі, пакоі для працы розных калектываў, якія павінны і будуць працаваць пры гмінным цэнтры культуры; на панадворку пры ГОК-у ў адпаведным месцы павінна знаходзіцца спартыўная пляцоўка, басейн.

Вось прыклад ГОК-у, які хочам мець. І гэтакі мадэль гміннага цэнтра культуры будзе ў будучым рэалізавацца, ніякі іншы. Праз 5—10 год ужо жыццё будзе вымагаць ад нас пашырэння нават гэтакага мадэлю. Таму ўжо цяпер трэба думаць нам пра год 1985 і далей.

Гмінны цэнтр культуры мае прыцягваць наватарствам, цікавымі формамі працы, а таксама быць зародкам для вясковых клубаў і святліц, якія будуць працаваць на тэрыторыі данай гміны.

Даходзіць да такога, які мы накрэслілі, мадэлю будзем двума спосабамі: першы і найважнейшы спосаб — гэта інвестыцыі ў культуры — трэба будзе будаваць гмінныя цэнтры культуры. Але не адразу, не цяпер, не на пажар. У гэтай пяцігодцы не будуць будавацца новыя ГОК-і. Таму прыдаецца значэнне другому спосабу, які называецца грамадскім чынам і адаптацыяй адпаведных будынкаў. Зразумела, з гэтым трэба быць асцярожным і трэба добра падумаць, каб зрабіць першы крок. Ініцыятыва такой адаптацыі павінна выйсці ад мясцовага гміннага актыву, бо на мясцовых чынах яна будзе абапірацца. Прыклады другога спосабу ўжо маем. Вось Кнышын — сядзіба гміны звярнуўся да ваяводства з просьбай памагчы ім адаптаваць вялікі будынак на ГОК. Калі гмінныя ўлады і начальнік гміны Кнышын бачыць патрэбу такога чыну і падтрымае ініцыятыву і яе сэнсоўнасць, то можна будзе пачаць адаптацыйную інвестыцыю. Абы толькі яна ішла ў пары з уздымам культурнага ўзроўню ў гміне. Адным словам, каб інвестыцыйныя пачынанні ўсюды былі вынікам культурных патрэб і патрэбы гэтыя яшчэ больш радзілі.

**Вера Леўчук**

---

# Міжнародны клуб дружбы

У мінулым годзе пры бельскім праўленні Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі (ЗСМВ) утварыўся міжнародны клуб дружбы. Мэта яго — дапамагаць наладжваць кантакты з моладдзю замежных краін. Члены гэтага клуба абавязаны весці перапіску не менш як з 2 асобамі. Ужо клуб налічвае каля 50 членаў. Аддзелы клуба існуюць у Беластоку, Лапах і Бранску. Старшынёй клуба з'яўляецца Веслаў Сакоўскі — старшыня гуртка ЗСМВ з вёскі Хаева, што на Бельшчыне. У планах клуба на бягучы год прадбачана запрасіць на Беласточчыну 5 асоб з Чэхаславакіі, а пазней паехаць туды з рэвізітам.

(мх)

## Этнаграфічнае акенца



*Жаночы камплект з Сакольшчыны (Этнаграфічны музей ў Торуні).*

## Пачаў бачыць

Ён ішоў няроўнай зігзагападобнай паходкай па адной з цэнтральных вуліц горада. Ардуючы парасонам, як палкай, ён з цяжкасцю прабіваў сабе дарогу.

Ісці было нялёгка: ён сюд-туд натыкаўся на забалакаўшыхся прахожых, на ліхтарныя слупы, на кіёскі, ларкі...

Час ад часу ён звяртаўся да прахожых з просьбай перавесці яго праз дарогу.

Ён не бачыў спагадлівых позіркаў, якія за ім ляцелі, не чуў спачувальных уздыхаў прахожых...

Маладосць, модная вопратка, элегантныя туфлі яшчэ больш падкрэслівалі ўсю трагічнасць яго становішча.

Ды вось ён спыніў чарговага прахожага, папрасіўшы яго аб чымсьці, і той, узяўшы небараку за руку, правёў яго ў дзверы бліжэйшай цырульні.

Праз 15—20 мінут ён з'явіўся на парозе цырульні. Пазбыўшыся модных капы валос, ён стаў яшчэ маладзейшым і сімпатычнейшым.

Сполах, здзіўленне, радасць, змяняючы адно аднаго, прабеглі па яго твары. Малады чалавек узняў рукі да неба і, голасна, на ўсю вуліцу крыкнуў: „Ура! Я бачу! Якое шчасце!“ — кінуўся ў самую гушчыню гарадскога жыцця.

**С. Мікалаеў**



### ПРАМОВА

„Таварышы! Сябры! Мы сышліся сюды, каб правесці ў апошні шлях нашага любімага, дарагога, незабыўнага Сямёна Кузьміча, чалавека рашучага і сумленнага, чулага і надта смелага. Нягледзячы на свае 23 гады, ён даказаў, што з'яўляецца самым стальным сярод нас і самым сур'ёзным.

Дарагі наш таварыш! Сябрук! Не доўга ты з намі жыў, але слаўна! Шмат чаго не паспеў здзейсніць, што задумаў, але зроблена не мала.

Дазволь жа мне ад імя тваіх верных сяброў сказаць: „Бывай, дружбак! Даруй, што мы цябе не ўбераглі!“.

Сямён Кузьміч... пацалаваў нявесту, падняў на рукі і панёс у расквечаную „Волгу“. Вясельны картэж машын імкліва накіраваўся ў рэстаран „Зара“, дзе госці з нецярпеннем чакалі шчаслівых маладых і іх сяброў.

**Віктар Шаўчэнка**

### ПРЫЧЫНА

Экзаменатар пытае будучага настаўніка:

— Скажыце, чаму вы выбралі сабе гэту прафесію? Назавіце хоць тры прычыны?

— Калі ласка: чэрвень, ліпень, жнівень.



— *Бацька! Хто тут заказваў пясок?*



### ПЯТАЕ КОЛА

Едзе Воз, а на дарозе ляжыць Кола.

— Вазьмі і мяне, — гаворыць Кола, — прыдамся.

— Каціся, — праскрыпеў Воз, — навошта возу пятае кола?

І паехаў, і паехаў... і на першай ухабіне зламаў кола... а замяніць няма чым.

Мараль: усе прапісныя ісціны добрыя, але толькі да першай ухабіны.



### ДАПЁК

У хаце, якая засталася пасля смерці бацькоў, жылі два браты Грыц і Карп. Браты вельмі дрэнна з сабою жылі і амаль кожны дзень сварыліся. Аднойчы дасварыліся да таго, што Грыц улез на страху, падпаліў ды й крычыць:

— Карп, гасі сваю палавіну, бо я сваю палю. Пайду жыць да цёшчы, а ты яе не маеш.

### МІНІВЕРШЫ

#### ШУКАЛЬНІК

Шукае дужа маладуху,
Хоць у целе мала духу.

**У. Скарынкін**

#### СКАРГА КАТА

Ва ўсе інстанцыі ён піша,
Што хвост яму адгрызлі мышы.

#### СМЯЛЬЧАК

Ён смела браў быка за рогі,
Калі той не ўставаў на ногі.

**П. Шыбут**

### Талаваломка

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 1 | 2 | 3 | 2 | 1 | 2 | 3 |
| 1 | 3 | 1 | 1 | 2 | 3 | 1 | 2 |
| 2 | 1 | 3 | 2 | 3 | 1 | 3 | 1 |
| 3 | 2 | 1 | 2 | 2 | 3 | 1 | 2 |
| 1 | 3 | 2 | 1 | 3 | 2 | 1 | 1 |
| 2 | 1 | 3 | 2 | 1 | 3 | 2 | 3 |
| 1 | 1 | 2 | 1 | 2 | 2 | 3 | 1 |
| 3 | 2 | 1 | 2 | 3 | 1 | 1 | 2 |

Пад адным з каменняў,назначаных цыфрамі, знаходзіцца скарб. Аб тым, як знайсці яго, напісана ў старажытным пергаменце:

„Скарб знаходзіцца пад каменем з нумарам I, які размешчаны ўнізе каменя 2, а гэты камень знаходзіцца справа ад каменя 3. Апошні размешчаны над каменем 2, а той, у сваю чаргу, знаходзіцца злева ад каменя I“.

Пад якім жа каменем знаходзіцца скарб?

* ✲ *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

3 м 3 м 2 м 3,5 м

### СЫТЫ ГАЛОДНАГА

Галодны воўк хацеў з'есці сытага зайца... А заяц не хацеў.

Сыты галоднага не разумее.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**



...Ён усё жыццё марыў абысці ўвесь свет і стаў... прайдзісветам.

...Ён у вёску да бацькоў ніколі не прыязджаў з пустымі рукамі — з ім заўсёды была сумка.

### НЯЎДАЧНІЦА

Пан Маліноўскі спытаў аднойчы ў пані Кавальскай:

— Колькі булак вы можаце з'есці на пусты жалудак?

— Чатыры, — адказала Кавальская.

— Гэта немагчыма.

— Чаму?

— Таму, што, калі вы з'ясце першую булку, жалудак ужо не будзе пустым.

— Дасканалы анекдот! — усклікнула Кавальская і тут жа пабегла да прыяцельніцы.

— Колькі булак ты можаш з'есці на пусты жалудак?

— Пяць, — адказала яна.

— Вельмі дрэнна, — сказала Кавальская панура.

— Чаму ж? — здзівілася прыяцельніца.

— Таму, што, калі б ты сказала, што чатыры, я б расказала табе дасканалы анекдот.



### У МАРСЕЛІ

Парыжанін прыехаў у Марсель і ўзяў таксі. Праз нейкі час гаворыць шафёру:

— Вы прыкмецілі, што забілі ўжо чатырох пешаходаў?

— Вы, уласна, прыехалі ў Марсель як турыст ці як статыстык?



*Дапамаглі.*

### ШКАДА — ШКАДА...

Некаторыя кіраўнікі даведваюцца аб стане здароўя сваіх кадраў па чорнай рамачцы на апошняй старонцы газеты.

— Гэта ж трэба, Пятроўскі памёр! Справы, га? А я акурат збіраўся на калегіі яму добра ўсыпаць. Ён жа ж да гэтых пор за першы квартал справаздачы не здаў. Гм — так, шкада, шкада...

### АПОШНЯЯ ФРАЗА

Двое адначасова прыбываюць у рай. Адзін пытае другога.

— Якую апошнюю фразу вы чулі на зямлі?

— Гэта была фраза маёй жонкі.

— І што ж яна сказала?

— Мілы, ты будзеш проста анёлам, калі на хвіліну перадасі мне руль.

### НЕ НА АДПАЧЫНАК

Зазваніў тэлефон. Трубку ўзяў пяцігадовы хлопчык.

— Вам каго? — спытаў.

— Тата дома? — пачулася з трубкі.

— Не, няма, — адказаў малы, — некуды паехаў.

— На адпачынак?

— Ды не, ён паехаў з мамай...

### НЕ КАЖЫ ГОП...

П'яны мужчына кінуўся на шыю старажу радзільнага дома:

— Панове, у мяне блізняты!

— Добра, добра! — усміхаецца стораж. — Але чаму вы кажаце „панове“, калі я тут адзін?

— Адзін? — здзівіўся навапечаны бацька. — Вось як?.. Дык я збегаю назад, пагляджу, ці сапраўды блізняты...

### ДОКАЗ

Размаўляюць двое старых:

— Ведаеш, — гаворыць адзін, — я моцны, як у маладосці.

— Як ты гэта выявіў?

— Вельмі проста. Бачыш тыя старыя млынавыя жорны на беразе ракі? Калі мне было 18 год, я не мог зрушыць іх з месца і цяпер таксама не магу.





### ВЯРТАННЕ НАТАШЫ КУЧЫНСКАЙ

Усім аматарам спорту добра вядома імя Наташы Кучынскай. Яе бліскучыя перамогі на розных спаборніцтвах сталі гісторыяй. Тэмпераментныя мексіканцы назвалі савецкую гімнастку дачкой Мексікі.

Пасля Алімпійскіх гульняў у Мехіка траўмы праследавалі Кучынскую. І дзяўчына раптам страціла веру ў сваю спартыўную зорку, перастала трэніравацца. Яна проста баялася снарадаў.

Прайшло некалькі гадоў. І вось зусім нядаўна імя Кучынскай зноў з'явілася ў судзейскіх пратаколах. Славутая гімнастка захапілася... скачкамі ў ваду. Трэнер не без падстаў лічыць, што на вышцы вучаніца дасягае тых жа вышынь, што і на гімнастычным памосце.

Магчыма гэта так і будзе, і тады мы станем сведкамі другога спартыўнага жыцця Наташы Кучынскай.

### НАСЛУХАЎШЫСЯ ЛЕКЦЫЙ

У амерыканскай ваеннай акадэміі Вест-Пойнт паніка. Яна ахапіла ўсіх — ад ветэранаў-педагогаў, у якіх шмат узнагарод за храбрасць, да зялёных слухачоў, якія яшчэ не ведалі страху. Віноўнік панікі — здань. Часопіс „Тайм“ вельмі сур'ёзна паведамляе, што многія слухачы бачылі ля пакоя № 4714 здань салдата ва ўніформе часоў прэзідэнта Джэксана і з мушкетам у руках. Капітан Кейт Бэкен, які вырашыў пакласці канец гэтым панічным чуткам, пасля адпаведнай праверкі... прызнаў факт з'яўлення здані. Месца, дзе яна знікла, дадаў капітан, было навобмацак ледзяное. Бэкен забараніў уваходзіць у пакой № 4714 да вялікадня 1974 года.




**Ніколі не спрачайся з жанчынай, нават калі яна сто разоў мае рацыю.**